# Тыднёвік Магілёўскі




№ 8 (72) 3 – 9 сакавіка 2000 г. Кошт 50 руб.


## Божа, беражы беларускую жанчыну







*Сакавік распачынаецца Жаночым Днём.*

*(Перад ім, калі ўлічваць афіцыйны каляндар, сьвяткуецца дзень беларускай міліцыі, пра які аднак ніхто ня ведае і ня помніць). А Дзень 8 Сакавіка трывала трымаецца ў грамадзкай сьвядомасьці як першае вясновае сьвята. Нават самыя строгія, занятыя і ня схільныя да залішняй пяшчотнасьці мужчыны ў гэты дзень хаця б адной жанчыне скажуць што-небудзь прыемнае...*

*Усё самае цяжкае традыцыйна выпадае на жаночыя плечы. Нашыя маці, жонкі, сястрыцы цягнуць на сябе ня толькі дом і гаспадарку, у каго яны ёсьць, але й – азірніцеся! – бальшыню вытворчасьцяў, сельскую гаспадарку, гандаль, адукацыю, мэдыцыну. Пакуль мужчыны колькі гадоў спрачаюцца як жыць краіне далей, жанчыны рэальна робяць для жыцьця ўсё добрае, на што толькі здольныя. За тое ім дзякуй.*

*... Для віншаваньня мы ўзялі некалькі здымкаў А.Ліціна, на якіх жанчынаў няма. Можна, падалося, і такім чынам – праз своеасаблівае фоталюстэрка сацыяльнага навакольля – найперш паспачуваць, але й пакланіцца жанчынам і выказаць ім сваю павагу.*

*З надыходзячым сьвятам, дарагія!*

***Рэдакцыя «ТМ»***

## РЭЙТЫНГ *ПАДЗЕЯЎ ЗА ЛЮТЫ ПАВОДЛЕ «ТМ»*

*Станоўчыя падзеі:*

– Міжнародная праява журналісцкай салідарнасьці (з удзелам магілёўскай гарадзкой суполкі Беларускай асацыяцыі журналістаў і рэдакцыі «ТМ») у падтрымку Андрэя Бабіцкага і свабоды слова, у выніку якіх расейская ўлада вымушаная была вызваліць карэспандэнта

* * *

– Узгоднены намер палітычных апазыцыйных партый байкатаваць выбары па правілах улады ў лукашэнкаўскі Нацыянальны сход, што ня дасьць магчымасьці легітымізаваць «рэфэрэндумную» канстытуцыю і наогул антыдэмакратычны рэжым

* * *

– Масавы прадпрымальніцкі страйк за свае правы, які высунуў на сацыяльна-палітычную сцэну новую сілу, здольную арганізавана змагацца за эканамічныя і палітычныя перамены ў краіне

* * *

– Акцыя Каханьня, якую пад нацыянальнымі колерамі правяла дэмакратычная моладзь па ўсёй краіне ў Дзень сьв.Валянціна

*Адмоўныя падзеі:*

– Зрыў па ініцыятыве рэжыму перамоваў з палітычнай апазыцыяй, у выніку чаго на няпэўны час адсоўваецца магчымасьць правядзеньня ў Беларусі свабодных выбараў

* * *

– Няздольнасьць апазыцыі і нежаданьне ўлады дакладна выявіць абставіны і лёс зьнікшых вядомых людзей, што сее ў грамадзтве абыякавасьць, разьмежаваньне і пакорлівасьць

* * *

– Выкарыстаньне ўладай судоў у змаганьні з актыўнымі апазыцыянэрамі, праваабаронцамі, прафсаюзнымі дзеячамі, журналістамі (суд над сынам С.Абадоўскага, пагроза суда над шклоўскім незалежным журналістам А.Шчарбаком, адмова суда пацьвердзіць справядлівасьць прафсаюзных патрабаваньняў да адміністрацыі аўтазавода, «Зяніта»)

## Разам, але паасобку

Учора адбылося трэцяе паседжаньне магілёўскага каардынацыйнага камітэта па сьвяткаваньні Дня Волі – 82-й гадавіны з дня абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Яно прайшло больш арганізавана, чым папярэднія. (Ваш карэспандэнт прысутнічаў на другім і быў зьдзіўлены нявызначанасьцю парадку дня і пасыўнасьцю ўдзельнікаў).

Цяпер жа сябры «Камітэта 25 сакавіка», у які ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх асноўных палітычных і грамадзкіх арганізацыяў абласнога цэнтру, правялі дынамічнае паседжаньне, падчас якога акрэсьлілі пералік асноўных мерапрыемстваў, якія ладзяць арганізацыі, згодна, калі так можна сказаць, іхнага профілю. Прыкладам, магілёўскі «Грамадзянскі форум» ладзіць амаль што навуковы сэмінар на тэму БНР, у якім чакаецца ўдзел украінскіх маладых палітыкаў. Мясцовая і замежная моладзь разам абмяркуюць здабыткі і памылкі тагачаснага абуджэньня нацыянальных настрояў і захадаў да незалежнасьці сваіх рэспублікаў ад савецкай Расеі. Шмат чаго прагучыць, вядома, на тэму сёньняшняга стану адраджэнскага і незалежніцкага руху.

Свае мерапрыемствы правядзе Малады Фронт. Актывісты гэтай арганізацыі, найбольш кантактнай і камунікабельнай, правядуць акцыю віншаваньня магілёўцаў з пачэсным Днём беларускай гісторыі, а для моладзевай аўдыторыі арганізуюць рок-канцэрт з удзелам папулярных нацыянальных гуртоў і салістаў.

«Дарослы» БНФ мяркуе правесьці, калі ня ўдасца наладзіць шэсьце, мітынг і пікетаваньне на тэму 25 Сакавіка. Зразумела, што ўсе дэмакратычныя суполкі горада мяркуюць правесьці сяброўскія вечарыны, прысьвечаныя гадавіне БНР, выдаць да гэтага дня адпаведныя інфармацыйныя друкаваныя матэрыялы: улёткі, віншавальныя паштоўкі, абвесткі. Сябры Камітэта плянуюць бліжэй да сьвята распаўсюдзіць у грамадзтве адпаведны сумесны Зварот, аднак больш скіраваны сваім зьместам на сёньняшнія сацыяльна-палітычныя і эканамічныя праблемы.

Да сярэдзіны сакавіка каардынацыйны камітэт зьбярэцца яшчэ адзін-два разы.

***Кастусь АНДРЭЕЎ, карэспандэнт «ТМ»***

## Акцыя «Мова 2000»

Сёлета, напрыканцы студзеня, газэта «Наша Ніва» распачала на сваіх старонках кампанію «Мова 2000». Газэта, прыгадаўшы досьлед нашых бліжэйшых суседзяў – палякаў, чэхаў ды літоўцаў, прапанавала ствараць і дасылаць у рэдакцыю наватворы ці заменьнікі таго запазычанага слоўнага бруду, што песьціцца ў беларускай мове, дзякуючы русыфікацыі.

То ж ба то. Справа патрэбная, але ж нэалягізмы – гэта ўсё ж такі пасыўная лексыка, і надзённыя праблемы сучаснае мовы не вычэрпваюцца зьнішчэньнем запазычаных наватвораў. Сёньня, калі нават доктар філялягічных навук можа сказаць на расейскі капыл «разглядаемае пытаньне» ці «адбыўшаяся канфэрэнцыя» замест «пытаньне, якое разглядаюць» і «канфэрэнцыя, якая адбылася», трэба больш пільна ўзорыцца ў мову штодзённага ўжытку.

Мы карыстаемся процьмай русызмаў, вымаўленных па-беларуску, ня ведаючы сапраўдных беларускіх адпаведнікаў (кажам «каблук», «беражлівы», «раздуваць» замест «абцас», «ашчадны», «разьдзьмухваць»), і праз тое даем падставу недасьведчанным людзям меркаваць, маўляў, вашая мова нейкая бедная й «дзеравенская». Але ж, спадарства, прыгадаем ужо добра вядомае: старажытныя беларуская й расейская мовы ўзьніклі адначасова (недзе каля XIII ст.), дзяржаўнай мовай у ВКЛ была беларуская... На жаль, пад уплывам палітыкі камуністаў у сярэдзіне XX стагодзьдзя самыя адметныя й яскравыя беларускія слоўцы былі выкінутыя з ужытку ці пагардліва пазначаныя ў абскубленых слоўніках як «састарэлыя, дыялектныя, альбо прастамоўныя».

Напрыканцы гэтай нішчымнай асьветніцкай адозвы, калі б я быў кімсьці накшталт Багушэвіча, я накрамзоліў бы: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!» Але ж гэта й так зразумела. Без Багушэвіча. Таму прасьцей: Беларус, заставайся Беларусам. Далучайся да «Мовы 2000»!

***Аляксей АЛЕКСАНДРОВІЧ***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Фэстываль «Магутны Божа» упершыню за сваю 6-гадовую гісторыю можа ператварыцца ў камэрцыйнае прадпрыемства. Мяркуецца браць грошы за ўдзел, плаціць ганарары, запрашаць прафэсыяналаў, каб пазьбегнуць аматараў на сцэне. Нагадаю, што славуты магілёўскі фэст быў справаю гонару для грамадзкіх арганізацыяў гораду. Яго рыхтавалі актывісты грамадзкага Фонду і разам з гасьцямі сьвяткавалі сваю чалавечую і духоўную еднасьць. А потым дзяржава, марудна ды няўхільна, пачала ўмешвацца ў сьвятую справу. Узгадаем зьяўленьне нейкіх аргкамітэтаў на чале з гарвыканкамаўскімі чыноўнікамі, узгадаем іхную цэнзуру, праз якую не ўдавалася прабіцца Касі Камоцкай... Зараз, як бачым, улада намерваецца «пайсьці яшчэ далей».

Вытворчаму аб'яднаньню «Мясамалпрам» наш аблвыканкам дазволіў прадаць у Расею ладную партыю сьвініны і вяндліны за тое, што адтуль нам прыйдзе 150000 тон мінэральных угнаеньняў. А крыху раней той жа аблвыканкам дазволіў прадаць у Смаленскую губэрню (ў абмен на паліва) магілёўскае малако: па курсе 1 літар за 1 літар. Не сумняваюся, што ў хуткім часе падобныя ж дазволы ў масавым парадку пойдуць на пастаўкі электраэнэргіі, насеньня, запчастак. Улічым падзеньне вытворчасьці ў нашых гаспадарках, якое ня мае намеру спыняцца. А таму раю чытачам: не назапашвайце грошы, калі яны ёсьць увогуле, а набывайце прадукты і рэчы. Хутка можа на ўсіх не хапіць, альбо грошы зьесьць інфляцыя.

На тыдні прагрымеў звычайна ціхі Глуск. Мясцовае аграпрамысловае прадпрыемства «Колас» набывала ў вяскоўцаў сельгаспрадукцыю, а потым ім жа прадавала. Паводле цяперашніх нормаў, якія даўно зацьверджаны ўладамі, сяляне мусяць усю сваю прадукцыю прадаваць толькі вось такім «упаўнаважаным Коласам». Дык вось высьветлілася, што тут масавыя махлярствы. Узважвалі прадукцыю з брудам, расплочваліся са спазненьнямі і не заўжды, у ведамасьцях увогуле палову разьлікаў не пазначалі. Ды яшчэ шмат чаго. І вось толькі зараз кантралёры налічылі, што запазычанасьць перад людзьмі на сёньня складае аж 2 мільярды старых грошай.

У чарговы раз дзяржава спрабуе вырашыць жыльлёвае пытаньне. Цяпер, праўда, у пераважнай большасьці за кошт прадпрыемстваў. На бліжэйшы год заплянавана пабудаваць 140 тыс. кв. мэтраў жыльля. На прамысловасьць «ускладаецца» каля 110 тысячаў гэтых мэтраў. Сабе бюджэт пакінуў астатняе. Як быццам бюджэт і сродкі прадпрыемстваў для ўрада не адное і тое ж. Ды і дзе яны, гэтыя сродкі...

Магілёўскія кантралёры паведамілі пра свае вынікі леташняй працы. Паводле начальніка кантролю Сямёна Соца, было праведзена 1684 праверак, налічана ў бюджэт каля 2 трыльёнаў неддэнамінаваных рублёў. Кантралёры з гонарам паведамляюць, што гэтая сума складае 4% абласнога бюджэту. Да адказнасьці прыцягнута больш за 1500 чалавек, з пасадаў звольнена 177. Усё б добра, але відавочна, нешта ня так. Кантралёры правяраюць, грошы спаганяюць, людзей звальняюць, а жыцьцё лепей не становіцца. Ці то людзі дрэнныя, ці то кантралёры ня тых звальняюць, ці то эканоміка ў нас адмысловая – колькі ня цісьні, нічога ня выцісьнеш.

Традыцыйнае сьведчаньне пра нашу эканоміку: амаль 30% прадпрыемстваў вобласьці – стратныя. Пра гэта ў чарговы раз паведаміла абласная статыстыка. Прычым сума стратаў ад іх за год падвялічылася ў 5 разоў, склаўшы 5,5 трыльёнаў рублёў. Але ёсць лічбы «сацыяльнай» статыстыкі, якія ня менш яскрава адлюстроўваюць крызыс. Напрыклад, у мінулым годзе на 100 бракаў прыйшлося 70 разводаў, на 11316 народжаных памёрла 18462. Ня з добрага жыцьця такія лічбы. Ня з добрага жыцьця яны штогод растуць.

На сэсіі Магілёўскага гарсавету паведамілі, што ў гэтым годзе завершыцца будаўніцтва Лядовага палацу. На гэта будзе выдаткавана больш за 2 мільёны даляраў. Гэта асабліва радасная навіна для тых, хто чакае, калі ж даробяць рэканструкцыю тэатра, дабудуюць школу ў Малой Бароўцы, паліклініку на Крупскай. Таксама яна радасная для тых, хто стаіць у чарзе па кватэру ажно з 1968 году.

На вуліцы Фаціна ў абласным цэнтры, побач з рукатворным возерам, які застаўся пасьля будаўніча-насыпных мерапрыемстваў, будзе пабудаваны вялікі супэрмаркет. Пра гэта паведаміў гарадзкі архітэктар Аляксандар Валовіч. Супэрмаркет мяркуецца даверыць палякам. Мне б падавалася, што свае рабочыя працавалі б ня горш. Магчыма, што за такім выгадным заказам стаяць уплывовыя сілы, што ня маюць звычкі даваць грамадзтву справаздачу альбо раіцца зь ім.

*Да сустрэчы. Званіце.*
*Сымон Глазштэйн.*

ВЫПРАБАВАНЬНЕ НА ЦЫВІЛІЗАВАНАСЬЦЬ: ТЭМУ ЗАЧЫНЯЦЬ РАНА

## Ня хутка мы пра ўсё дазнаемся...

*Андрэй Бабіцкі нарэшце дома.*
*Крымінальная справа супраць яго не зачыненая.*
*Расея паведамляе пра заканчэньне вайсковай апэрацыі «па вызваленьні Чачэніі».*

25 лютага карэспандэнт радыё «Свабода» Андрэй Бабіцкі, дакладных зьвестак аб якім не было з 16 студзеня, быў затрыманы ў Махачкале (Дагестан). Пры ім быў знойдзены пашпарт на чужое імя. Ён пацьвердзіў, што падчас знаходжаньня ў сумнавядомым фільтрапунке Чарнакозава добраахвотна напісаў заяву, у якой пагаджаўся на ўласны абмен на некалькіх расейскіх ваеннапалонных. Аднак, калі ўбачыў, што сустракаюць яго невядомыя людзі ў масках, ён ад такога «абмену» адмовіўся. Аднак ягонага жаданьня ўжо ніхто не пытаўся. Так ён апынуўся ў руках невядомых яму людзей, якія ўтрымвалі яго ўвесь гэты час на тэрыторыі Чачэніі да мінулай пятніцы, калі ён раптам апынуўся ў Дагестане.

Яго перавезьлі ў Махачкалу ў багажніку машыны і пакінулі ў гатэлі аднаго, з падробленым пашпартам на імя азэрбайджанскага грамадзяніна, але з фотакарткай сапраўднага Бабіцкага. Хутка «выпадковая» праверка АМОНам дакумэнтаў у тых, хто спыніўся ў гатэлі, дала падставу для ягонага арышту.

Назіральнікі лічаць, што апошнія падзеі зьвязаныя з тым, што іншым шляхам расейскія ўлады не маглі выйсьці з гэтай, імі ж створанай, складанай сытуацыі. (Шэраг журналістаў паведамляюць, што маюць прызнаньні некаторых супрацоўнікаў расейскіх спэцслужбаў аб тым, што ніякага абмену салдатаў на журналіста не было). Вяртаньне А.Бабіцкага пасьля Чарнакозава, пасьля палону ў невядомых людзей з утрыманьнем у невядомым месцы – дасягненьне ўсіх тых людзей і арганізацыяў, што змагаліся за ягонае вызваленьне (пры тым, што гэтую перамогу ўлада мяркуе запісаць ледзь не на асабісты рахунак кандыдата ў расейскія прэзыдэнты Пуціна).

Нельга сказаць, што праблема Андрэя Бабіцкага вырашаная і закрытая. На нашае меркаваньне, яшчэ многае давядзецца пачуць пра «вызваленьне Чачэніі» такога, ад чаго ўскалыхнецца сэрца не аднаго сумленнага чалавека. Сьвет, здаецца, паціху адыходзіць ад гіпноза расейскіх «дэмакратычных рэформаў». Парыжане і варшавяне першымі ў Эўропе выйшлі на вуліцу з акцыямі пратэсту супраць мэтадаў, якімі Расея «змагаецца з тэрарызмам». Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі патрабуюць расьсьледваньня ўмоваў утрыманьня чачэнскіх палонных і затрыманых пад наглядам спэцыяльных расейскіх падразьдзяленьняў. Эўрапейскія ўрады патрабуюць спыніць зьдзекі над цывільным насельніцтвам пакутнай рэспублікі і ўцекачамі зь яе. Міжнародныя гуманітарныя структуры дамагаюцца дазволу на наведаньне Інгушэціі і Чачэніі (хаця расейскі ўрад не дазволіў пабываць там, на месцы падзеяў, нават свайму ж, расейскаму прадстаўніку па правах чалавека)...

Паводле замежных СМІ

**Ад рэдакцыі**. *Падаецца такім чынам, што звычайны спадзеў злачынцаў на тое, што вайна, а тым больш нібыта пераможная, «усё сьпіша», перастае спраўджвацца.*

*Мы ж нагадаем, што пачынаючы гэтую тэму («ТМ» №5), рэдакцыя мела на мэце зьвярнуць увагу чытачоў на падабенства паводзінаў расейскіх і нашых уладаў у тым, што тычыцца зьняважлівага стаўленьня да сваіх жа грамадзянаў па «палітычных матывах», наступу на незалежную прэсу, штодзённых «дробязна-бытавых» парушэньняў правоў чалавека і шмат яшчэ чаго... Небясьпечнае гэтае падабенства адаліць Беларусь ад Эўропы (ад цывілізаванага жыцьця, значыць) яшчэ больш, чым ёсьць сёньня... А там толькі й застанецца, што аб'яднацца «у барацьбе з агульнымі ворагамі». Ня толькі прапагандысцкай барацьбе. Ваяваць дык ваяваць...*



## З намі рабочыя, мы пераможам

Працягваецца супрацьстаянне паміж пярвічнай арганізацыяй Свабоднага прафсаюза Магілёўскага аўтамабільнага завода з заводзкімі і мясцовымі чыноўнікамі. Днямі адміністрацыя прадпрыемства, незаконна, у аднабаковым парадку спыніла дзеяньне калектыўнага дагавора, заключанага з прафсаюзам. У прафкама адабралі офіс і абсталяваньне.

Свае дзеяньні кіраўніцтва завода тлумачыць тым, што пярвічная арганізацыя не зарэгістравана ў мясцовых органах улады. Адміністрацыя горада, у сваю чаргу, неабгрунтавана зацягвае рэгістрацыю. Адпаведныя паперы знаходзяцца ва ўладаў ужо 4 месяцы, у той час як згодна закону гранічны тэрмін разгляду заявы складае 1 месяц.

За правядзеньне акцыяў пратэсту рабочых супраць свавольства чыноўнікаў у дачыненьні да СПБ ладзіцца судовы перасьлед. Актывістам прафсаюзу таксама пагражаюць рознымі фінансавымі санкцыямі (пазбаўленьнем прэміяў, ільготаў і г.д.), калі тыя ня выйдуць з СПБ.

Мы заяўляем свой рашучы пратэст супраць грубых парушэньняў заканадаўства і правоў пярвічных арганізацый прафсаюза. Рабочыя прадпрыемства даручылі нам, калі практыка ціску на законныя правы ня спыніцца, зьвярнуцца ў міжнародныя праваабарончыя арганізацыі з просьбай аб падтрымцы.

*Ігар БУГРОЎ, старшыня прафкама СПБ*

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



## Згодна эсэсэраўскай пастановы

Гэтае здарэньне ўражвае нейкай будзённай абыякавасьцю і звыклай чэрствасьцю пасадавых асобаў, якія між тым штодня ў сваёй працы маюць стасункі з жывымі людзьмі. Праўда, ці лічаць яны нас з вамі за жывых, – гэта яшчэ трэба паглядзець... Давайце паглядзім.

Магчыма, многія магілёўцы могуць узгадаць выпадак, які тры гады таму ўскалануў, як тады гаварылі, шырокую грамадзкасьць (цяпер так не гавораць, бо сапраўды ўражаньне такое, нібы грамадзтва ў нас паменшала). Тады настаўнік Вендаражскай школы Уладзімер Краўчанка быў асуджаны раённым судом да 3 гадоў пазбаўленьня волі па абвінавачваньні ў тым, што стаў прычынай самагубства свайго вучня.

І сьледства, і суд не былі переканаўчымі. Асуджаны да працяглага тэрміну былы настаўнік выйшаў на волю праз 4 месяцы. Перагледзеў прыгавор абласны суд, хаця на ягоную поўную адмену не пайшоў.

Уладзімер Краўчанка пачаў паступова вяртацца да жыцьця. Ажаніўся. Жонка і будучая маці, чым бліжэй было да родаў, тым усё меней мела сілаў і жаданьня езьдзіць у Рагачоў, дзе жыла, і вяртацца ў Магілёў, дзе жыў муж. Рашэньне, зь якім раней не сьпяшаліся, было прынятае: жонка становіцца законнай жыхаркай Магілёва, прапісваецца ў кватэры мужа... Аднак пасьля першага візыту да «пашпартысткі ЖЭУ» Бушляковай Уладзімер Краўчанка даведаўся, што і сам не прапісаны ў кватэры, бо быў выпісаны зь яе «па прадстаўленьні суда».

Нідзе ў прыгаворы, які мы разам прыдзірліва перачыталі, пра такое «прадстаўленьне» і слова не было. Аднак міліцэйскі начальнік зь Ленінскага райаддзела капітан Сіманкоў пісьмова пацьвердзіў, што сп. Краўчанка быў правільна выпісаны з кватэры... «согласно Постановления Совета Министров СССР от 28.08.1974г. за №667, приказа МВД СССР от 15.05.1975г. за №320».

Ну, і дзе ж мы жывем пасьля гэтага... Я нават не «пра палітыку». Пра тое, што службовыя асобы абсалютна спакойна ня ведаюць таго, што нормы гэтых «постановлений» у нас адмененыя, а дзейнічаюць іншыя, згодна якім ніякая спадарыня Бушлякова пад кіраваньнем капітана Сіманкова ня мела права выпісваць грамадзяніна Краўчанку зь ягонай, дарэчы, прыватызаванай кватэры.

Ня ведаю, ці будзе сям'я Краўчанкі дамагацца якой кампэнсацыі за маральны ўрон, патрабаваць службовага пакараньня названых міліцэйскіх чыноўнікаў. Ведаю, што зараз ім не да таго. У Алены Краўчанкі дзіця нарадзілася мёртвым... Жанчыны ўвогуле, а цяжарныя асабліва, рэагуюць на звыклыя і звычайныя дзікасьці нашага жыцьця найбольш балюча і востра.

*Аляксандар АЛЕКСАНДРОВІЧ, карэспандэнт «БДГ» – спэцыяльна для «ТМ»*

ПРЭЗЭНТАЦЫЯ КНІГІ

# ШТО НАМ І ГІСТОРЫКАМ ТРЭБА...

*У мінулую суботу ў офісе«Кола сяброў» адбылася грамадзкая прэзэнтацыя фотаальбома«Магілёў на скрыжаваньні».*

Імпрэзай даволі ўдала распараджаўся адзін з удзельнікаў праекта стварэньня кнігі, што пасьпела стаць знакамітай, Сымон Глазштэйн. Прыкметным было ягонае хваляваньне, паколькі«перад сваімі» гэта адбываецца зь ім ня часта. Аднак гэтым разам у залі былі ня толькі запрошаныя на прэзэнтацыю магілёўцы, але й іншагароднія госьці, актывісты«трэцяга сэктару», якіх«Кола сяброў» у гэтыя ж выходныя склікала на сэмінар.

Віншаваньні ў гэты вечар прымалі аўтары выданьня дырэктар музэя гісторыі Магілёва Ігар Пушкін і выкладчык Ўнівэрсытэта Алесь Агееў. Абодва падзякавалі спадарству за ўвагу да іхнай сумеснай працы, адзначылі творчы ўклад у праект фотамастака Аляксандра Ліціна, мастака Аляксандра Суворава ды многіх іншых, хто спрычыніўся да выданьня пакуль што ўнікальнай у Беларусі кнігі.

Акрамя таго Ігар Пушкін дынамічна і весела правёў сярод прысутных віктарыну на веданьне гісторыі свайго места (адным зь пераможцаў якой стаў, на задаволенае зьдзіўленьне залі, удзельнік сэмінара з Паставаў).

Прысутных вітаў рэцэнзэнт выданьня, вядомы менскі гісторык Анатоль Грыцкевіч, які спэцыяльна прыехаў на імпрэзу, каб яшчэ раз падтрымаць ідэю кнігі і яе аўтараў, падзячыць усім, хто неабыякава ставіцца да гісторыі родных мясьцінаў і роднай краіны. (На жаль, мясцовы рэцэнзэнт гісторык Якаў Рыер, які неаднаразова з удзячнасьцю ўзгадваўся на прэзэнтацыі, па бытавых прычынах ня змог прыняць удзел у сяброўскай сустрэчы).

Тым часам ягоны менскі калега ня толькі паўтарыў высокую ацэнку магілёўскай кніжцы, дадзеную ў рэцэнзыях, але й падзяліўся з прысутнымі сваімі глыбокімі і цікавымі высновамі наконт таго, чым ёсьць веданьне гісторыі для чалавека і што павінна рухаць гісторыка ў ягонай працы. Па вызначэньні спадара Грыцкевіча, вынікова могуць займацца гэтай дзейнасьцю толькі тыя, хто прысягнуў на вернасьць патрыятызму і праўдзівасьці. Наяўнасьць гэтых якасьцяў Анатоль Грыцкевіч, прызнаны ў сьвеце прафэсыяналаў адным з аўтарытэтаў, засьведчыў за нашымі аўтарамі, што было прыемна пачуць усім удзельнікам імпрэзы.

Тым больш, што кожны меў магчымасьць атрымаць кнігу з аўтографамі«ў абмен» на любое, няхай сабе сымбалічнае грашовае ахвяраваньне. А пачатак высакароднай скарбонцы, якая ўся пойдзе на другое выданьне кнігі (яе чакаюць бібліятэкі, настаўнікі ды многія магілёўцы) паклаў кароткі, але«вынікова» аўкцыён па продажы самага першага (і таму адзінага!) асобніка выданьня, што было пацьверджана спэцыяльным запісам і пячаткай на ягонай вокладцы.

Пашанцавала, між іншым, ізноў іншагародняму госьцю імпрэзы (менчуку), зь якім кніга і паехала начным цягніком у сталіцу... А за сяброўскім сьціплым фуршэтам, што лягічна завершыў прэзэнтацыю, магілёўцы спрабавалі аджартавацца тым, што як ветлівыя і выхаваныя людзі саступілі гасьцям, у абодвух выпадках, адмыслова. Затое за сабой пакінулі неаспрэчную першаснасьць у рэалізацыі ідэі выданьня.

*Рэдакцыйны **АГЛЯДАЛЬНІК** па пытаньнях культуры*
*Фота А. Ліціна.*







## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...Зь Бялынічаў

Герба ня мае

***Адзін кіроўца бялыніцкага камбіната кааперытыўнай прамысловасьці,*** як і кожны чалавек, хацеў, каб ягоная сям'я мела дастатак, дастойны ўзровень жыцьця. Вядома, на той мізэр, які называецца зарплатай, асабліва не разгонісься, – грошай хоць бы хапіла на хлеб, малако... І вось цягам некалькіх месяцаў ён зьліваў з бэнзабака замацаванага за ім аўтамабіля дэфіцытны і дарагі сёньня бэнзын. Супрацоўнікі групы па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю мясцовага райаддзела міліцыі ўстанавілі, што такім шляхам вушлы вадзіцель прысабечыў каля паўтары тоны бэнзына. А ў грашовым выражэньні гэта складае больш як 200 мільёнаў дэномінаваных рублёў.

***Як сталася вядомым, летась на тэрыторыі раёна ад сабачых зубоў*** пацярпелі 65 чалавек. Яны зьвярнуліся ў лячэбна-прафіляктычныя ўстановы па дапамогу. На самой справе, пакусаных, канешне, значна болей. А зрабіць адпаведныя прышчэпкі мэдыкі прапанавалі толькі двум падлеткам з прычыны таго, што іхныя чацьвераногія крыўдзіцелі здохлі. У астатніх выпадках прышчэпліваньне не спатрэбілася. Аднак бацькі падлеткаў катэгарычна не дазволілі, каб іх дзецям рабілі антырабічныя прышчэпкі. Як сьведчыць папярэдні досьвед, найбольш агрэсыўнымі сабакі чамусьці становяцца ў красавіку-жніўні. Летась спэцыяльна створаныя брыгада пры райжылкамунгасе зьнішчыла 249 г.зв. бадзячых сабакаў і 58 катоў.

***Як сьведчаць дадзеныя мінулагодняга перапісу насельніцтва,*** у Бялыніцкім раёне жывуць прадстаўнікі 24 нацыянальнасьцяў. Выключную большасьць складаюць беларусы. Іх доля – 94,4%. Рускіх ад агульнай колькасьці насельнікаў раёна (27161 чалавек) усяго 4,3%, украінцаў – 0,7, палякаў – 0,2, габрэяў – 0,1, а 0,3% прыпадае на гэтак званыя «ншыя нацыянальнасьці». А іх, паводле зьвестак статыстаў, ажно 19. Зрэшты, складваецца ўражаньне, што большасьць насельнікаў раёна складаюць якраз рускія, бо ў райцэнтры і на вёсках беларуская мова амаль не гучыць. Яе замяніла«трасянка».

### ...з Глуску



***Пабачыла сьвет мясцовая гістарычна-дакумэнтальная кроніка«Памяць».*** Асноўнае месца ў кнізе займае сьпіс жыхароў раёна, якія загінулі падчас Другой сусьветнай вайны (паводле аўтараў – Вялікай Айчыннай). Таксама зборнік зьмяшчае больш за 800 прозьвішчаў рэпрэсаваных у гады сталіншчыны. Адмысловы разьдзел прысьвечаны гісторыі Глускага раёну, у якім пададзены зьвесткі больш чым пра 100 мясцовых сёлаў. Аб'ём выданьня – болей 600 старонак, наклад – 3000 асобнікаў, выдавец – БЕЛТА.

***Тым часам пры дапамозе Глускага раённага клюба выбаршчыкаў,*** магілёўскай асацыяцыі«Кола сяброў» і рэспубліканскай грамадзкай арганізацыі«Аб'яднаны шлях» пабачыла сьвет кніга«Глуская зямля: дыялёг з гісторыяй». У яе ўвайшлі матэрыялы раённай краязнаўчай канфэрэнцыі, што адбылася ўвосень 1998 году. Цікавая інфармацыя аб раскопках каля вёскі Сіманавічы, аб мясцовым сярэднявечным замку, аб паходжаньні назоваў, аб старых паданьнях, якія зьвязваюцца з архэалягічнымі помнікамі раёну, аб творчасьці вядомага мастака XVII ст. Аляксандра Тарасэвіча, – усё гэта прадстаўлена ў зборніку. Кніга выклікае вялікую зацікаўленасьць глушчан, якія зь нецярплівасьцю чакаюць зьяўленьня яе ў продажы. Наклад, праўда, невялікі – 800 асобнікаў.

***У Глускую цэнтральную бібліятэку ў 1999 г. зьвярталіся 3170 чытачоў.*** Асабліва цікавіла іх гістарычная, дэтэктыўная літаратура, фантастыка, раманы пра каханьне. Аднак паступ новых кніг у бібліятэку штогод зьмяншаецца Калі ў 1997-м бібліятэка атрымала 1606 кніг, то ў 1998 – 1082, а ў 1999 – 748 найменьняў. Зь іх 255 – гэта мастацкая літаратура, астатнія кнігі можна аднесьці да адмысловых выданьняў вузкае спэцыялізацыі.

Кніжны фонд, што быў створаны яшчэ за савецкім часам, карыстаецца попытам сярод усяго некалькіх дзясяткаў чалавек. Іншыя чытачы замаўляюць сучасныя кнігі, якія рэклямуюць СМІ. Днямі чытачы разам з супрацоўнікамі бібліятэкі зьвярнуліся зь лістом да старшыні райвыканкаму, у якім просяць грошы на тое, каб біліятэка магла набываць новую літаратуру.

### ...з Бабруйску



***Мясцовы камбінат«Белшына» пачаў новы год*** з працяглага прастою. Стабільнай працы прадпрыемства, як заўжды, перашкаджала адсутнасьць сыравіны, ды яе несваечасовая дастаўка. Ці ўдасца паўтарыць нядрэнныя, паводле статыстыкі, паказчыкі 1999 году, прадказаць зараз цяжка.

***У студзені-лютым у Доме афіцэраў прайшла выстава*** жывых экзатычных жывёлаў сьвету. Жадаючыя маглі пабачыць шматлікіх зьмей, павукоў, чарапах і нават сфатаграфавацца зь пітонам. Асаблівую цікавасьць гледачоў выклікалі тры маленькія малпачкі. Амаль кожны наведвальнік, асабліва малады, спрабаваў пацягнуць іх за хвост, ушчыпнуць, тыкнуць нагой, частаваць цукеркай ці графітавым алоўкам. Час ад часу адыходзячы ад клетак на некалькі мэтраў папаліць, арганізатары выставы пазіралі на гэтыя забавы паблажліва.

***Днямі ў дзіцячай музычнай школе №1 імя Я.Цікоцкага*** адбыўся канцэрт яе былых выпускнікоў, флейтыстаў братоў Эдварда і Алега Сыцянкаў. Канцэрт доўжыўся паўтары гадзіны і за гэты час браты зачаравалі публіку бліскучай тэхнікай ігры на флейце. Пэдагогі музычнай школы і вучні былі вельмі ўдзячныя братам за канцэрт і выказалі надзею на новыя сустрэчы, нягледзячы на тое, што тыя жывуць за мяжой, Эдуард – у Польшы, а Алег – у Фінляндыі. Абодва саліруюць у аркэстрах і маюць пэдагагічную практыку.

***Гарадзкія ўлады працягваюць работу па закупу*** харчовага зерня. На сёньняшні дзень закуплена 24,7% ад даведзенага заданьня ці 5656 тон на суму 510,6 тысячы даляраў ЗША.

### ...з Крычава



***Крычаўскаму культурна-асьветніцкаму грамадзкаму аб'яднаньню«Кантакт-цэнтар»*** нарэшце ўдалося прайсьці дзяржаўную рэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі Беларусі. Працэс рэгістрацыі цягнуўся пяць з паловай месяцаў, хаця, па закону аб грамадзкіх арганізацыях, гэта працэдура павінна доўжыцца адзін месяц.

***Ні для каго не зьяўляецца сакрэтам, што стан сельскай гаспадаркі на Беларусі – дрэнны.*** Калгасы літаральна з кожным месяцам памяншаюць узровень вытворчасьці. У Крычаўскім раёне ў чарговы раз вярнуліся да добра адпрацаванага ў савецкі час спосаба паляпшэньня спраў на вёсцы. Раённая выканаўчая ўлада вырашыла, што калгасам павінны дапамагчы найбольш буйныя і заможныя прамысловыя прадпрыемствы Крычава. Так, ВА«Крычаўцэмэнтнашыфэр» закупіць для калгаса«Дзягавічы» 100 тон насеньня зерневых. Завод гумавых вырабаў – 30 тон для калгаса імя Карла Маркса. Столькі ж прадаставіць прадпрыемства нафтапрадуктаў калгасу«Сацшлях». Па 20 тон павінны набыць мясакамбінат і маслазавод. Па задуме раённага кіраўніцтва, купленае зараз зерне будзе вернутае з будучага ўраджая. Аднак, на гэта ніхто рэальна не спадзяецца, таму што калгасы, якім будзе аказаная дапамога, лічацца абсалютна безнадзейнымі.

### ...з Мсьціслава



***Паводле інфармацыі Мсьціслаўскага аддзела статыстыкі,*** праведзены чарговы ўлік жывёлы ў прыватных гаспадарках. На сёньняшні дзень у Мсьціслаўскім раёне налічваецца 5603 галавы буйной рагатай жывёлы, што на 133 галавы менш, чым летась. Сьвіней налічваецца 9466. У мінулым годзе іх было 10351.

*Міхась **КАРПЕЧАНКА**, Ігар **КІРЫН**, Таццяна **КОПЕЦ**, Андрэй **КУЗЬМІН***

